**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 28 (849) 14 ліпеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**У мінулую нядзелю, 10 ліпеня, у Радзюках пад Шаркоўшчынай быў адкрыты помнік ахвярам Халакосту. Прысутнічалі не толькі мясцовыя жыхары, але і госці – фундатары помніка з Вялікабрытаніі і ЗША. Помнік усталяваны ў цэнтры вёскі ля Дома культуры.** *Фота Змітра Лупача.* *Праця тэмы на стар. 5.*

## З-за тарнада ў Шаркоўшчыне тры жанчыны патрапілі ў бальніцу

Тры жанчыны патрапілі ў бальніцу з рознымі траўмамі пасля таго, як днём 11 ліпеня па тэрыторыі Шаркоўшчынскага раёна пранеслася тарнада. Сярод пацярпелых – прадавец гандлёвага павільёна "Вікторыя плюс", які перакуліўся ад моцных парываў ветру.

У Шаркоўшчыне тарнада сарвала дахі з 20 жылых дамоў, а ў вёсцы Маркі – з трох жывёлагадоўчых фермаў. У выніку пацярпелі не толькі людзі, але і цяляты. Загінулых няма.

На чыгуначнай станцыі Шаркоўшчына перакуліліся два казловых краны, а на дарозе пабач гарпасёлка – аўтамабіль IVECO.

Па дадзеных Віцебскага абласнога УМНС, 301 населены пункт застаўся без электрычнасці.

Стыхія таксама закранула Ушацкі і Глыбоцкі раёны.

***telegraf.by***



## Чацвёрты «Вішнёвы фестываль – 2016» у Глыбокім пройдзе з 18 ліпеня па 23 ліпеня

**Штогадовы фестываль,які стаў культурным брэндам Глыбоцкага раёна, будзе насычаны разнастайнымі мерапрыемствамі і працягнецца шэсць дзён – з 18 па 23 ліпеня.**

У святочнай праграме гэтага года запланаваныя канцэрты, конкурсы і выставы, Дзень моладзі і Дзень спорту, забегі на абцасах і аўташоў, а ў апошні дзень фестывалю – адкрыццё скульптуры «Сям'я», «вішнёвае» вяселле, конкурс баяністаў, дыскатэка і феерверк.

Адкрыццё фестывалю адбудзецца 18 ліпеня з 17:30 да 18:00 на Цэнтральным пляцы.

На фестывалі будуць і новыя цікавосткі. Так, напрыклад, 19 ліпеня, першая спартакіяда Глыбоцкага раёна сярод кіраўнікоў устаноў, прадпрыемстваў, арганізацый і працаўнікоў дзяржаўных органаў «Вішнёвая Эліта – 2016».

У гэты ж дзень, з 18:00 да 19:00 – адкрыты чэмпіянат горада па практычнай стральбе «Вішнёвая костачка», забег вішнёвых слімакоў «Выкананне жаданняў» і спаборніцтвы па тоўрэстлінгу (барацьба на пальцах ног).

Частка мерапрыемстваў пройдзе і на гарадскім стадыёне. 19 ліпеня – Дзень спорту «Алімпійская вішня – 2016», з 17:00 да 18:00 – экспрэс-адзнака фізічнага стану «Вішня – энергія жыцця» і вішнёвая акцыя «Запішыся ў спартыўную школу і фізкультурнааздараўленчы цэнтр». А таксама, з 17:00 да 20.00 Вішнёвае асарці гульнявых відаў спорту «Мяч у гульні»: стрытбол, валейбол, бадмінтон, футбол.

У апошні дзень, 23 ліпеня, на Цэнтральным пляцы, з 09:20 да 9:30 – гашэнне паштовай маркі ў гонар «Вішнёвага фестывалю» адмысловым паштовым штэмпелем. З 10:30 па 11:00, на закрыццё фестывалю – урачыстае шэсце «У гасцях у Вішні» (вул. Леніна).

У горадзе поболее помнікаў – з 13:30 па 14:00 адкрыццё скульптуры «Сям'я» (Цэнтральны пляц).

На заканчэнне фестывалю, а 23-й гадзіне – святочны феерверк.

*Паводле kraj.by*



ISSN 2077-8023





**У нас змяніўся нумар тэлефона, цяпер – 8 (02156) 5-52-94**

**Па краіне**

## Трагедыі на вадзе

■ Чэслаў Якубовіч.

**Сёлетняе лета запомніцца не толькі рэкорднай гарачынёй, але і шматлікімі трагедыямі на вадзе, калі жыццё зусім маленькіх людзей абарвалася так недарэчна.**

З нагоды гібелі ў абласным цэнтры 7-гадовага хлопчыка ў неагароджаным катлаване распачалі нават крымінальную справу супраць службовых асоб будтрэста № 9 Віцебска. Гэта арганізацыя ўзводзіць цяпер у бурна растучым гарадскім мікрараёне "Білёва-2" новую школу на 1020 месц для навучэнцаў. Менавіта на гэты дрэнна агароджаны аб'ект вечарам прыйшлі пагуляць двое хлопчыкаў братоў. Адзін з іх ва ўзросце 7 гадоў па неасцярожнасці апынуўся ў невялікім штучным вадаёме. Праз некаторы час пацярпелага дасталі з вады, выклікалі медыкаў, але ўрачы пасля праведзення спецыяльных рэаніамацыйных мерапрыемстваў не змаглі вярнуць пацярпелага да жыцця. Адразу некалькі жыццяў забрала ў спёку і галоўная водная артэрыя вобласці – рака Заходняя Дзвіна. У рысе горада вечарам пайшла там асвяжыцца ў ваду маладая жанчына і назад на бераг ужо не вярнулася. Крыху далей па цячэнні гэтай ракі ўжо на тэрыторыі Шумілінскага раёна ўвогуле разыгралася сапраўдная драма. Там з двума юнымі пляменнікамі пайшла купацца 21-гадовая студэнтка ветэрынарнай акадэміі. Імклівае цячэнне ў нейкі момант панесла 8-гадовага дзіця на надуўным плавальным крузе. Каб ратаваць малыша, яму на дапамогу паплыла дзяўчына, але моцна нахлябалася вады і стала тануць. Яе выцягнуў на бераг старэйшы 13-гадовы падлетак, але студэнтка памерла, утапіўся і малодшы брат. За адзін той чорны тыдзень на вадаёмах вобласці абарваліся жыцці шасці людзей…

**Пастаўскі раён**

## Новы этап развіцця

■ Кастусь Александровіч

**Штогод летам у навучальных установ хапае клопатаў, ці ўдасца выканаць зацверджаны план прыёму студэнтаў і навучэнцаў.**

У адрозненне ад іншых, Пастаўскі дзяржаўны каледж ужо працягчы час не ведае такіх праблем, бо сюды з задавальненнем ідзе вучыцца моладзь і з іншых рэгіёнаў. Яшчэ летась было прынята рашэнне пераўтварыць каледж у райцэнтры ў сярэднеспецыяльную навучальную ўстанову, у статусе тэхнікума ён будзе рыхтаваць патрэбныя кадры для заходніх раёнаў вобласці. На працягу тыдня гатоўнасць установы да працы ў новых умовах праверыла камісія Дэпартаменту кантролю якасці навучання Міністэрства адукацыі Беларусі на чале з галоўным інспектарам Марыяй Малкінай. У выніку Пастаўскі каледж пацвердзіў дзяржаўную акрэдытацыю ўстановы ССНУ з правам прадаўжэннявучобылепшымі выпускнікамі па скарочанай форме навучання ў Полацкім дзяржуніверсітэце і ў іншых ВНУ Беларусі. Камісія адзначыла высокі ўзровень падрыхтоўкі заняткаў выкладчыкамі з прымяненнем інтэрнэту, створаную тут адпаведную вучэбна-матэрыяльную базу, працу па арганізацыі адпачынку ў камфортным інтэрнаце, па развіцці творчых здольнасцей навучэнцаў. Дарэчы, рыхтуюць тут спецыялістаў цяпер з сярэднеспецыяльнай адукацыяй па запатрабаваных прафесіях "тэхнік-механік" і "бухгалтар". У юнакоў карыстаецца асаблівай папулярнасцю кваліфікацыя "вадзіцель-дальнабойшчык". Пасля 9 класаў рыхтуюць тут і запатрабаваныя кадры масавых прафесій па 8 спецыяльнасцях і 13 кваліфікацыях. Дарэчы, за 60 гадоў сваёй дзейнасці гэта раней вучылішча, а цяпер тэхнікум падрыхтавала звыш 20 тысяч спецыялістаў масавых прафесій. З яго сцен выйшлі некалькі вядомых вучоных АПК, кіруючых работнікаў і шмат пераможцаў, прызёраў "Дажынак" рэспубліканскага і абласнога ўзроўняў.

**Полацкі раён**

## Нафтаграду не да спорту

■ Станіслаў Раманчук.

**Крызісная эканамічная сітуацыя ў краіне адпаведным чынам адбіваецца і на іншых сферах дзейнасці, цяжкія часы перажывае айчынны спорт.**

З падобнымі праблемамі сутыкнуліся таксама ў Наваполацку, дзе могуць увогуле ліквідаваць неўзабаве мясцовы хакейны клуб экстралігі "Хімік-СКА". З-за сур'ёзных фінансавых праблем у мясцовага нафтаперапрацоўчага завода на грані вылету з эліты беларускага футбола апынуўся ФК "Нафтан". Не дачакаўшыся заканчэння першага круга чэмпіянату Беларусі па футболе, гэту каманду пакінулі яшчэ трое моцных ігракоў. А яшчэ зусім нядаўна навапалачане двойчы выйгравалі Кубак Беларусі, гулялі ў еўракубках, у сезоне 2014 года фінішавалі на высокім 5-м месцы. Сёлета нафтавікі ўжо сярод аўтсайдараў айчыннага футбола, каманда маральна развальваецца. Справа ў тым, што клуб ніяк не здолее выплаціць капітану Аляксею Сучкову і яшчэ 17 вядучым ігракам даўгі па зарплаце і прэміяльныя за папярэднія сезоны на сотні млн. рублёў кожнаму, якія былі прапісаныя ў кантрактах. Прафесіянальных футбалістаў усё просяць пачакаць, пакуль не палепшыцца сітуацыя ў 10 асноўных спонсараў каманды. Але калі людзей доўгі час проста падманваюць, водзяць за нос, то ў іх прападае жаданне поўнасцю выкладвацца на трэніроўках і ў саміх матчах. З гэтага клуба зышлі вядучыя спартсмены, засталася адна моладзь, якой цяжка саперніччаць на роўных з іншымі клубамі, а ФК "Нафтан" у такой атмасферы можа неўзабаве вылецець у слабейшы дывізіён.

# Аб самым надзёным

## НЕВЫПАДКОВА СПЕЦЫЯЛІСТЫ МВФ ЗАКЛІКАЛІ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ПАСКОРЫЦЬ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ І ІНШЫЯ НАСПЕЎШЫЯ РЭФОРМЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Для простага чалавека таксама важна, каб Беларусь атрымала на Захадзе фінансавую падтрымку. Паступіць патрэбная валюта, значыць будзе больш устойлівым наш новы беларускі рубль, не абваліцца да 3-х з нечым банкнот за долар, што можа быць пры дрэнным развіцці падзей.**

Канец чэрвеня сёлета аказаўся для беларусаў даволі багаты на розныя значныя падзеі. Суайчыннікі чакалі прадстаячай дэнамінацыі і больш актыўней, чым раней, здымалі ў банкаматах свае старыя грошы, каб у пачатку ліпеня не мець праблем з новымі банкнотамі і капейкамі, якія памяталі людзі за савецкім часам. Аматары спорту з цікавасцю сачылі за захапляльнымі матчамі ў групах, а потым ужо на выбыванне на чэмпіянаце Еўропы ў Францыі. Характэрна, што толькі кожны пяты беларус быў засмучаны вылетам адтуль з трэскам расійскай футбольнай зборнай, а астатніх гэта асечка пакінула абыякавымі, нехта нават узрадаваўся такому факту, як і адхіленню лёгкаатлетаў РФ ад Алімпіяды.

Апошнім часам пагаршэнне расійска-беларускіх адносін ідзе па нарастаючай. У першы дзень працы ў Мінску V Усебеларускага сходу Расія прыгразіла цалкам спыніць імпарт малочнай прадукцыі з Беларусі. Перад гэтым у Крамлі вырашылі забараніць праз нашу тэрыторыю пастаўкі на расійскі рынак садавіны і гародніны з афрыканскіх краін. Разгарэлася па сутнасці і новая "нафтавая вайна", бо ў 3-м квартале на два нашы нафтаперапрацоўчыя заводы паступіць сыравіны на 2,5 млн. тон меней, чым было прапісана ў кантракце. Па-ранейшаму ў падвешаным стане было і пытанне цэн на газ, які зараз руская пастаўляюць нам дарагі па 132 долары, толькі крыху таннейшы, чым "Газпрам" гандлюе са спажыўцамі ў ЕС.

Увогуле наш усходні сусед усё болей ізалюе сам сябе ад астатняга свету, пра што засведчыла адмова Рускай праваслаўнай царквы ўдзельнічаць ва Усеправаслаўным саборы, які рыхтаваўся больш тысячы гадоў. Праваслаўныя з усяго свету з'ехаліся на грэчаскі востраў Крыт, але там нашых беларускіх прадстаўнікоў не было, за выключэннем аднаго вучонага-тэолага. Нічога новага не прапанаваў нашаму грамадству і прайшоўшы ў Мінску сход-з'езд, дзе паўтараліся ранейшыя тэзісы, што грамадства беларускае бачыцца не гатовае да нейкіх там рэформ. Галоўны дакладчык у сваёй двухгадзіннай прамове галоўнай драмай беларусаў назваў крушэнне СССР і падкрэсліў, што мы дагэтуль усё рабілі правільна і будзем далей ісці тым жа курсам.

Можна з ім пагадзіцца, што адным з падарункаў дэлегатам сходу стаў паспяховы запуск навейшых ракетных сістэм залпавага агню "Паланез". Аднак у сталіцы сабраліся ўсё-ж нейкія асаблівыя людзі, бо яны дружна апладзіравалі, калі А. Лукашэнка паведаміў, што дзяржапарат будзе скарочаны ў 2 разы. Магчыма, дэлегаты разлічвалі, што такі горкі лёс іх абміне, а перад гэтым кожнаму ўдзельніку форму ў Мінску падаравалі па планшэту, партфелю і кнізе. Для кожнага з нас зараз нават большае значэнне меў прыезд у беларускую сталіцу чарговай місіі МВФ.

Напэўна, яго спецыялістам было цікава пачуць адзін з асноўных рэцэптаў аздараўлення айчыннай эканомікі, агучаны на прайшоўшым Усебеларускім сходзе: "надо раздеваться и работать. До седьмого пота. Не будет этого – погибнем! Конкуренция бешеная". Глава ж місіі МВФ Пітэр Долман на існуючыя ў нас праблемы і на спосабы іх вырашэння мае іншы погляд: "белорусская экономика находится в рецессии, на страну постоянно оказывают влияние неблагоприятные внешние шоки. Мы призываем провести глубокие реформы для стабилизации экономики и обеспечения экономического роста, роста благосостояния в среднесрочной перспективе".

Да канца чэрвеня абмяркоўвалася ў Мінску новая крэдытная праграма Беларусі з МВФ у суме 3 млрд. долараў. Падобныя перамовы, як вядома, пачаліся яшчэ мінулай восенню, нейкія меры па аздараўленні сітуацыі ў Беларусі ўрадам прымаліся: стрымліваўся незароблены рост даходаў, падраслі тарыфы ЖКГ, урэзалі бюджэтныя расходы, абмежавалі льготнае крэдытаванне дзяржпрадпрыемстваў і стратнага АПК. Аднак цяпер заходнія эканамісты жадаюць, каб структурныя наспеўшыя рэформы ў нашай краіне ішлі хутчэй, з узмацненнем ролі і вагі прыватнага сектара эканомікі, бо ў айчынных банкаў ужо больш 12 % праблемных актываў, у асноўным за кошт дабітых да ручкі калгасаў.

Для простага чалавека таксама важна, каб Беларусь атрымала на Захадзе фінансавую падтрымку. Паступіць патрэбная валюта, значыць будзе больш устойлівым наш новы беларускі рубль, не абваліцца да 3-х з нечым банкнот за долар, што можа быць пры дрэнным развіцці падзей. На прайшоўшым форуме ў Мінску прагучалі таксама вельмі правільныя словы, што каб Беларусь магла дынамічна развівацца, яна павінна мець нармальныя адносіны з Еўрасаюзам і ЗША, а прыватны бізнес неабходна актыўней уцягваць у дзяржаўныя праекты. Сход у Мінску стаў ужо здабыткам гісторыі, а ў бліжэйшы час стане вядома, як будуць выконваць яго ныя рашэнні і рэкамендацыі МВФ аб рэформах у Беларусі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 14.07.16 | | | | Пятніца 15.07.16 | | | | Субота 16.07.16 | | | | Нядзеля 17.07.16 | | | | Пан. 18.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +16 | +21 | +19 | +18 | +19 | +18 | +16 | +13 | +15 | +20 | +17 | +13 | +15 | +20 | +18 | +14 | +18 | +21 |
| Ціск | 743 | 744 | 743 | 741 | 738 | 739 | 742 | 746 | 748 | 750 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 749 | 748 | 748 | 746 |
| Вецер м/сек | 4 С-В | 3 С-В | 7 В | 7 В | 8 Ю-В | 7 Ю-З | 10 Ю-З | 5 З | 3 Ю | 2 З | 3 З | 2 З | 2 С | 0 ШТЛ | 1 Ю | 1 С | 2 В | 3 В | 2 Ю-В |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 71 | 84 | 96 | 91 | 76 | 76 | 95 | 97 | 72 | 77 | 96 | 81 | 67 | 87 | 100 | 89 | 74 |

## Дзень за днём

**Сітуацыя ў эканоміцы можа значна пагоршыцца ў канцы года, калі Беларусь не атрымае новыя крэдыты МВФ і ЕФСР. Новую праграму развіцця Беларусі да 2020 года чакае горкі лёс папярэдняй пяцігодкі. У бліжэйшыя гады паабяцалі беларусам стварыць 250 тысяч новых працоўных месц. Толькі лічаных апазіцыянераў уключылі ў выбаркамы на парламенцкіх выбарах. Аднавіліся пастаўкі ў Беларусь крымскіх він. МУС папярэдзіла аб магчымым успleску злачыннасці з-за дэнамінацыі. Расія перадумала прыпыняць пастаўкі малочнай прадукцыі з Беларусі. У спёку за адны выхадныя ў Беларусі ўтапіліся 15 чалавек.**

# Важнейшыя навіны свету

**Шатландыя.** Першы міністр краіны Н. Стэрджэн заявіла, што шатландцы зробяць усё магчымае, каб застацца ў ЕС, могуць накласці вета на выхад Англіі з Еўрасаюза.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус заклікаў дзяржавы ЕС не аслабляць уведзеныя санкцыі супраць Расіі пасля рашэння грамадзян Англіі на рэферэндуме пакінуць Еўрасаюз.

**Ірландыя.** Пасля “брэксіта” рэзка вырасла колькасць англічан, жадаючых набыць пашпарты ЕС, істотна прыбавілася заяў з Англіі, там жыве 5 млн., чые продкі – ірландцы.

**Турцыя.** Пасля атрымання Пуціным ад прэзідэнта Р. Эрдагана прабачэння за гібель расійскага лётчыка краіны дамовіліся пачаць працу па нармалізацыі ўзаемных адносін.

**Германія.** Канцлер А. Меркель пацвердзіла, што краіна значна павялічыць ваенныя расходы на абарону, каб супрацьстаяць на растучыя знешнія пагрозы з боку Расіі.

**Англія.** Міністр фінансаў Д. Асборн пацвердзіў, што ў сувязі з магчымым выхадам краіны з ЕС, брытанцаў чакае скарачэнне расходаў дзяржбюджэту, павышэнне падаткаў.

**ЗША.** Суд прысяжных у Фларыдзе прызнаў экс-ваеннага з Чылі Педра Барыентаса вінаватым у катаваннях і забойстве спявака Віктара Хары ў Санц’яга ў 1973 годзе.

**Венесуэла**. З-за недахопу валюты на СП з беларускім МАЗам за год выпусцілі толькі 325 машын ( 7 % ад магутнасцей завода), доўг перад Беларуссю вырас да 70 млн. долараў.

**Літва.** Арбітражны суд Стакгольма адмовіў краіне ў кампенсацыях з “Газпрама” ў памеры 1,4 млрд. еўра з-за завышаных цэн на газ, падобны лёс чакае Украіну з Беларуссю.

**Грузія.** Міністр абароны Ц. Хідашэлі падпісала загад, згодна з якім у краіне адменены абавязковы прызыў моладзі на ваенную службу, грузіны служаць 12 месяцаў па жаданні.

**Украіна.** Камандванне стала выдаваць беларускім добраахвотнікам з элітнай тактычнай групы “Беларусь” ваенныя білеты, у ёй служаць таксама ўкраінцы і расіяне.

**Кітай.** Міжнародная група вучоных пацвердзіла, што кітайская сталіца Пекін паступова ўходзіць пад зямлю на 11 см кожны год з-за празмернага выкачвання грунтовых вод.

**Англія.** Вучоныя біёлагі Лонданскага ўніверсітэта выявілі механізм знішчэння чалавечага арганізма ракам, гэта адкрыццё дапаможа распрацаваць новыя метады лячэння ад гэтых пухлін.

**Ватыкан.** Пасля вяртання з Арменіі папа Рымскі Францыск заявіў, што касцёл павінен папрасіць прабачэння ў геяў за ранейшае стаўленне да іх, не павінна быць дыскрымінацыі.

**Украіна.** З-за нізкай якасці сервісу адпачынак у акупіраваным Крыме згубіў папулярнасць у расіян, попыт на авіябілеты ўпаў на 25 %, людзі едуць болей у Анапу, Геленджык, Сочы.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** “Беларуськалій”, як пацвердзіў А. Лукашэнка, можа аднавіць супрацоўніцтва з расійскай кампаніей “Уралкалій” пасля іх расколу, але на беларускіх умовах.

**Мінск.** Якія б цяжкасці не перажывала сёння Расія, як папярэдзіў доктар палітычных навук Павел Усаў, яна дастаткова моцная, каб дэстабілізіраваць Беларусь.

**Гомель.** Родныя і калегі развіталіся з 55-гадовай прадпрымальніцай Т. Дупанавай, якая пакончыла сабой, каб пазбегнуць канфіскацыі судом кватэры і машыны, яе тавар забралі.

**Астравец.** Пасля літоўска-беларускіх экспертных кансультацый урад Літвы заклікаў Беларусь прыпыніць будаўніцтва АЭС да правядзення міжнародных стрэс-тэстаў станцыі.

**Мінск.** Глава вобласці С. Шапіра пацвердзіў, што ў аблвыканкаме з 493 супрацоўнікаў скароцяць каля 100 чалавек, на 10 % скароцяць штаты ў райвыканкамах.

**Дзяржынск.** Ужо восенню ў склад 336-й ракетнай артылерыйскай брыгады плануецца дабавіць адзін дывізіён навейшых айчынных ракетных сістэм залпавага агню “Паланез”.

**Салігорск.** Кіраўніцтва БКК падпісала ў Нью-Дэлі анансаваны кантракт па пастаўках у Індыю 700 тысяч тон калійных угнаенняў па цане 227 $/т (летась пастаўкі былі па 332 $).

**Мінск.** У нас будуць, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, паўрэформы, калі ужо зусім прыпрэ, беларусам максімальна прадоўжаць агонію старой казённай сістэмы.

**Шклоў.** Рассельгаснагляд знайшоў у кураціне ААТ “Александрыйскае” і яшчэ чатырох беларускіх прадпрыемстваў нітрафураны і ДНК каня, ім забаранілі пастаўкі ў Расію.

**Мінск.** Віцэ-прэм’ер урада Беларусі Н. Качанава пацвердзіла, што створаны аўтарскія калектывы, якія актыўна працуюць над напісаннем новых школьных падручнікаў.

**Бяроза.** Раніцай падчас купання на адным з кар’ераў горада ўтапіліся двое падлеткаў ва ўзросце 14 і 16 гадоў на глыбіні 4-х метраў на адлегласці 15-20 метраў ад берага.

**Мінск.** У сталіцы развіталіся з двумя мэтрамі айчыннай культуры, народным артыстам СССР Расціславам Янкоўскім і кампазітарам Сяргеем Картэсам, памерлі ў адзін дзень.

**Лельчыцы.** Падчас рыбалкі з брэднем на рацэ Ствіга ўтапіліся па невядомай прычыне два родныя браты ва ўзросце 15 і 18 гадоў, таксама 15-гадовы іх сябра з вёскі Дзяржынск.

**Бабруйск.** Вечарам горад накрыў вельмі моцны лівень з градам, які паралізаваў рух транспарту, вада падтапіла гіпермаркет, дамы і 58 панадворкаў, тры ўчасткі дарог.

**Мінск.** А. Лукашэнка выступіў за чысціню атлетаў у беларускім спорце і прыгразіў суровымі мерамі тым, хто прымае забароненыя прэпараты і допінг.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# «Не працуеш - не плаціш». Мінпрацы паабяцала разгледзець прапанову ІП аб узносах у ФСАН




■ FINANCE.TUT.BY

**Прадпрымальнікі прапануюць плаціць страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва прапарцыйна адпрацаванаму часу. Міністэрства працы і сацыяльнай абароны вывучыць дадзеную прапанову. Пра гэта паведамляе прэс-служба Міністэрства эканомікі пасля чарговага пасяджэння рабочай групы па пытаннях дзейнасці ІП пры грамадска-кансультатыўным (экспертным) савеце па развіцці прадпрымальніцтва.**

«Прадстаўнікі прадпрымальніцкага асяроддзя выступілі з канкрэтным прапановай, якую яны коратка назвалі «Не працуеш - не плаціш «- аб увядзенні для прадпрымальнікаў-плацельшчыкаў адзінага падатку магчымасці выплаты страхавых узносаў у ФСАН прапарцыйна адпрацаванаму часу», - паведамляюць у прэс-службе Мінэканомікі.

Гаворка ідзе пра тое, каб прадпрымальнік-плацельшчык адзінага падатку, у выпадку калі ён не працуе які-небудзь перыяд часу і не плаціць за гэты перыяд адзіны падатак, атрымліваў права выплачваць за гэты перыяд узносы ў ФСАН на добраахвотнай аснове.

Нагадаем, што для іпэшнікаў мінімальны плацёж у Фонд сацабароны за 2015 год складае 898,84 рубля. І заплаціць прадпрымальнік павінен нават у тым выпадку, калі не працаваў.

«Па выніках пасяджэння прынята рашэнне накіраваць дадзеную прапанову ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны для разгляду і вярнуцца да яе абмеркавання на прысвечанай гэтай праблеме працоўнай групе, якая запланавана на канец жніўня - пачатак верасня», - удакладняе прэс-служба Мінэканомікі.

На пасяджэнні таксама плануюць разгледзець і пытанні выплаты ІП бальнічных, дапамог звязаных з цяжарнасцю і доглядам за дзіцем.

Два наступных пасяджэнні рабочай групы па прапанове прадпрымальнікаў прысвяцяць узаемадзеянню ІП з мытнымі органамі і праверачнай дзейнасці Міністэрства па падатках і зборах.

У пасяджэнні прынялі ўдзел прадстаўнікі саветаў індывідуальных прадпрымальнікаў гандлёвых цэнтраў і рынкаў розных гарадоў, бізнес-саюзаў і прафсаюзаў, а таксама дзяржаўных органаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Зніжэнне раптоўнае паставак нафты з Расіі на 5 мільёнаў тон, як папярэдзіў эксперт Т. Манёнак, паскорыць тэмпы падзення ВУП Беларусі, прынясе новыя праблемы.

**Віцебск.** Швейная фабрыка “Сцяг індустрыялізацыі” заключыла доўгатэрміновы кантракт на пашыў і пастаўкі ў Польшчу штомесяц да 3,5 тысяч мужчынскіх касцюмаў.

**Орша.** Гаспадаркам рэгіёна сталічны МТЗ перадаў для праверкі сваю эксперыментальную мадэль навейшых трактароў “Беларусь-3522” з амерыканскім рухавіком “Caterpillar”.

**Талачын.** Урад Беларусі дазволіў інвестарам з Даніі пабудаваць пабліз у раёнага цэнтра і ля Слоніма да канца 2017 года новыя комплексы па вытворчасці беконнай свініны.

**Віцебск.** Па выніках навучальнага года 448 выпускнікоў 11-х класаў школ і гімназій вобласці атрымалі залатыя і сярэбраныя медалі, іх без экзаменаў прымуць у педВНУ.

**Паставы.** Мясцовы райспажыўсаюз першым у краіне правёў перана元адку сваіх плацёжных тэрміналаў і касавых апаратаў для аперацый у новай нацыянальнай валюце.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 40-гадовага гараджаніна, які напаў вечарам на 23-гадовую студэнтку, а потым у мікрааўтобусе знаёмага жорстка згвалтаваў 30-гадовую жанчыну.

**Новалукомль.** Прадукцыя завода керамзітнага гравія - блокі “ТэрмаКамфорт” стала пераможцам рэспубліканскага конкурсу “За лепшыя дасягненні ў будаўнічай галіне”.

**Браслаў.** Групу цяжкіх падлеткаў з раёна і з Відзаўскага парфкаледжа звазілі на экскурсію ў калонію асаблівага рэжыму № 13 у Глыбокім, каб яны ведалі, што чакае іх на “зоне”.

**Верхнядзвінск.** Упершыню ў гісторыі 14 гаспадарак раёна выйшлі на продаж у суткі звыш 200 тон малака на масласырзавод, летась гэты рэгіён намалаціў больш 100 тысяч тон збожжа.

**Глыбокае.** На працягу двух дзён у касцёле святой Ганны ў Мосары з удзелам біскупа Віцебскай дыяцэзіі А. Буткевіча праходзілі масавыя набажэнствы ў гонар святога Яна.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар паэта Д. Сімановіча, помнік князю А. Неўскаму з жонкай, Ганаровым грамадзянінам горада стаў А. Косінец.

**Ушачы.** У райцэнтры, у вёсках Бычкі і Пуцілкавічы прайшлі літаратурныя вечарыны, прысвечаныя слаўтым землякам-пісьменнікам П. Броўку, В. Быкаву і Р. Барадуліну.

**Талачын.** У аграгарадку Райцы 11-месячная дзяўчынка перакуліла на сябе кубак з кіпятком, які стаяў на стале, і памерла ў рэанімацыі абласной бальніцы.

**Віцебск.** Вадзіцелям аўтапарка № 1 забаранілі прымацоўваць расійскія і савецкія сцяжкі да вокнаў салона пасля адпаведнага звароту ў гарвыканкам грамадскіх актывістаў.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*



# Прах вялікай беларускі Магдалены Радзівіл перанясуць у Мінск

**«Яна была самай беларускай сярод усіх Радзівілаў. Яна — своеасаблівы сімвал мары пра дэмакратычную Беларусь. Менавіта таму яе праўнукі, не самая бліжэйшая сям'я хоча перанесці яе косці ў Беларусь, таму што Магдалена Радзівіл лічыла сябе грамадзянкай Беларусі. Я разумею, што ў Беларусі ёсць праблемы, але разам з тым для любога народа важна, каб людзі, якія зрабілі шмат для гісторыі народа і якія любілі сваю краіну, вярталіся ў яе хоць бы пасля смерці»,** — *сказаў князь Мацей Радзівіл падчас сустрэчы з журналістамі ў Мінску.*

Князь Мацей Радзівіл у Мінску паведаміў, што праўнукі вядомай беларускай мецэнаткі, княгіні Магдалены Радзівіл пастанавілі перапахаваць яе цела ў Мінску — у касцёле святых Сымона і Алены, побач з якім яна жыла.

Цяпер цела Магдалены Радзівіл, а таксама яе адзінай дачкі пахаваныя ў швейцарскім горадзе Фрыбургу.

Сям'я звярнулася з гэтай ідэяй да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, а таксама да пробашча Чырвонага касцёла ксяндза Уладзіслава Завальнюка, якія вельмі зычліва паставіліся да гэтай ідэі, тым больш, што ўжо раней у Чырвоным касцёле перапахавалі парэшткі фундатара касцёла Эдварда Вайніловіча і англійскага музыказнаўцы, даследчыка беларускай культуры Гая Пікарды.

Князь Мацей Радзівіл расказаў, што ў сям'і да гэтага часу захоўваюцца гісторыі пра тое, як іх сваячка любіла Беларусь.

### Хацела, каб Беларусь была незалежнай, лічыла сябе беларускай.

Падчас Першай сусветнай вайны Магдалена Радзівіл падтрымлівала палітычныя рухі, якія хацелі, каб Беларусь была незалежнай рэспублікай. Гэта не было лёгка для яе, таму што такія погляды не былі папулярныя сярод польскай і літоўскай арыстакратыі, якая больш схілялася да ўзнаўлення Рэчы Паспалітай.

### Фінансавала кнігавыданне беларускіх аўтараў.

Дапамогу княгіня аказвала найперш газеце «Беларусь» («Biełarus») і выдавецтву «Загляне сонца і ў наша ваконца», дзе выходзілі першыя кнігі Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйло ды іншых аўтараў.

### Яе герб — на «Вянку» Максіма Багдановіча.

Герб Завішаў (род, з якога паходзіць Магдалена Радзівіл) «Лебедзь» быў змешчаны на тытульным аркушы зборніка вершаў Максіма Багдановіча «Вянок». Такім чынам выдаўцы Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч аддзячылі мецэнатцы за фінансавую падтрымку.

### Плаціла стыпэндыі беларускім студэнтам.

Магдалена Радзівіл фінансавала беларускія школы, а таксама плаціла стыпендыі студэнтам-беларусам, якія навучаліся ў Пецярбургу, апекавалася тамтэйшай беларускай бібліятэкай.

### Падтрымала стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Маючы дэмакратычныя і незалежніцкія перакананні, княгіня Магдалена Радзівіл была супраць бальшавікоў і ў 1918 годзе выказала актыўную падтрымку Беларускай Народнай Рэспубліцы.

### Лічыла Мінск найлепшым месцам для жыцця.

Пасля таго, як Мінск занялі бальшавіцкія войскі, Магдалена Радзівіл выехала ў Варшаву. У 1919 годзе яна спрабавала вярнуцца ў Мінск, але атрымала адмову новых уладаў. Як сям'я ўзгадвае, што яна заўсёды марыла вярнуцца ў Мінск і нідзе не пачувала сябе так добра, як у гэтым горадзе.

### Ахвяравала калье беларускай грэка-каталіцкай калегіі.

У 1917 годзе Магдалена Радзівіл перадала сваё дыяментавае калье на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме. У 1924 годзе святар Фабіян Абрантовіч прадаў яго за 15 тысяч амерыканскіх даляраў, а грошы перадаў беларускім айцам-марыянам у Друі.

### Лічыла ідэалам дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае.

Магдалена Радзівіл шчыра верыла ў Бога, але разам з тым лічыла, што кожны чалавек свабодны ў сваім выбары. Яна лічыла, што дух Вялікага Княства Літоўскага — гэта дух плюралізму, дзе кожны вольны верыць так, як лічыць патрэбным, і размаўляць на той мове, якой лічыць сваёй.

Мацей Радзівіл выказаў спадзеў, што фармальнасці, звязаныя з пераносам парэштаў Магдалены Радзівіл будуць вырашаныя, і перапахаваць княгіню можна будзе яшчэ сёлета.

*Паводле Радыё Свабода.*




**Магдалена Радзівіл у маладосці.**
*Фота са збораў Глеба Лабадзенкі.*

# У Глыбоцкім раёне адкрылі санаторый "Пліса", пра які так шмат казалі

**У Глыбоцкім раёне адкрылі санаторна-курортны комплекс «Пліса». Ён знаходзіцца ў лесе на беразе маляўнічага возера і займае звыш 20 гектараў. Раней тут размяшчалася вайсковая частка, піша «СБ Беларусь Сегодня».**

У «Плісе» могуць прыняць аднагасова да 500 чалавек. Для камфорту адпачывальнікаў — вялікі жылы корпус на 164 месцы і комплекс 1-2-павярховых катэджаў, басейн, спартыўныя збудаванні і нават амфітэатр з крытай эстрадай. Архітэктары «прывязалі» аблічча галоўнага корпуса да гісторыі: па форме ён нагадвае старажытную рэліквію — крыж Еўфрасінні Полацкай. У санаторыі ёсць свая дапаможная гаспадарка.

У новай здраўніцы, якая стала дзясятай на рахунку на Віцебшчыне, плануюць прымаць да 6 тысяч чалавек у год. Месцы тут прыгожыя, па-экалагічнаму чыстыя, і ў райвыканкаме разлічваюць на тое, што з дапамогай новага комплексу атрымаецца прыцягнуць у рэгіён турыстаў.

У «Плісе» будуць працаваць каля 170 чалавек. Цяпер здраўніца складае дамовы з прадпрыемствамі і фермерамі на пастаўку прадуктаў харчавання, аддаючы перавагу мясцовым вытворцам.

*Алена Бегунова, СБ*



**Дзяржаўнае аб'яднанне «Фізічная культура, спорт і турызм Пастаўскага раёна» абвясціла тэндар на выраб і мантаж трэніравальнага комплексу «Вяровачны парк» арыентыровачным коштам 25 500 рублёў.**

# У Паставах створаць вяровачны парк



Ілюстрацыйнае фота.
*treetotree.ru*

■ **Сяржук Серабро**

У вяровачным парку будзе два маршруты — лёгкага і сярэдняга ўзроўню складанасці. Кожны маршрут павінен складацца з 6 перашкод, уключаючы спускі. Працягласць кожнай перашкоды можа дасягаць 9 метраў.

Перашкоды будуць мантавацца на натуральных ствалах дрэў, а сканчацца абодва маршруты, паводле ўмоў тэндара, павінны спускамі (тралеямі), якія будуць праходзіць над возерам.

Змантаваць вяровачны парк у Паставах павінны да 7 жніўня. Закуп фінансуецца з раённага бюджэту.

# У Радзюках ушанавалі памяць ахвяраў Халакосту

**У вёсцы Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна 10 ліпеня ўшанавалі памяць расстрэлу ахвяраў гета, якія адбыўся ў чэрвені 1942 года.**

■ **Зміцер Лупач**

У чэрвені 1942 года яўрэям, што знаходзіліся ў Шаркоўшчынскім гета, стала вядома, што рыхтуецца іх знішчэнне. Шмат людзей прарвала калючы дрот і кінулася наўцёкі ў бок бліжэйшых лясоў.

Найбольш іх уцякала ў бок вёскі Радзюкі, якая знаходзіцца ў 4 кіламетрах ад Шаркоўшчыны па дарозе на Глыбокае. З боку Глыбокага насустрач уцекачам выехалі карнікі, якія ўсталявалі кулямёт на ўскраіне вёскі Радзюкі, з якога вялі агонь па яўрэях. З боку Шаркоўшчыны немцы таксама зладзілі пагоню. Тых жа, хто паспеў схавацца ў бліжэйшых хутарах, акупанты знаходзілі і забівалі. Усіх ахвяр мясцовым жыхарам загадалі звесці ў адну яму і пахаваць.

Гэта магіла знаходзілася на ўскраіне вёскі Радзюкі, і хаця яна была не абазначаная, мясцовыя жыхары пра яе ведалі і не чапалі. Але колькі гадоў таму мясцовая гаспадарка разарала гэты ўчастак і засеяла травой. Там сталі пасвіць жывёлу, а ў гэтым годзе тут нарыхтавалі сена.

Мясцовая жыхарка Ларыса Шпак, 1928 года нараджэння, якая ведала пра гэта пахаванне ад відавочцаў, вырашыла падняць гэта пытанне, каб неяк ушанаваць памяць пра гэтых людзей. Па стану здароўя яна сама зрабіць гэта не магла, таму папрасіла мясцовую жыхарку Людмілу Ардынскую гэта зрабіць. Дзякуючы ёй у газеце "Вольнае Глыбокае" з'явіўся артыкул "Крывавае поле", таксама з'явіліся матэрыялы ў іншых сродках масавай інфармацыі.



Невядома з якой прычыны, шаркоўшчынскія ўлады спачатку ўспрынялі гэта вельмі негатыўна. Яны сталі пераконваць, што гэта інфармацыя непраўдзівая.



Хаця, на мой погляд, прычына тут можа быць толькі адна – зроблена гэта было без удзелу ўладаў, не па іх ініцыятыве. А гэтага ў наш час нашы кіраўнікі не вітаюць.

Праўда, спрэчнае пытанне пра памятны знак было вырашанае і ён быў усталяваны каля Дома культуры вёскі Радзюкі. Як патлумачыў Ігар Кравецкі, старшыня Камісіі па ўшанаванні ахвяраў Другой сусветнай вайны, зроблена гэта таму, што ахвяраў хавалі не ў адным месцы, а ў розных. Таму помнік вырашылі паставіць тут, у цэнтры вёскі.

Праўда, мясцовыя жыхары лічаць, што варта ўсё ж абазначыць тую магілу, хаця б яе абгарадзіць, паставіць нейкі сціплы знак, бо там жа пахаваныя людзі.

На ўрачыстасць прыехалі фундатары гэтага памятнага знака з Вялікай Брытаніі і ЗША. Менавіта дзякуючы іх ахвяраванням у Беларусі ўстаноўлена ўжо больш за 8 дзясяткаў памятных знакаў на месцы гібелі яўрэяў. І гэта праца будзе працягвацца.

Таксама на ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі яўрэйскай абшчыны з Мінска і Полацка, мясцовыя ўлады, жыхары вёскі і навакolля, байкеры з Глыбокага. Вяла мерапрыемства Галіна Левіна, дачка знакамітага архітэктара Леаніда Левіна.

Пасля заканчэння мітынгу госці наведалі былое мястэчка Лужкі, дзе ўсталяваны памятны знак у гонар нараджэння адраджэнца іўрыта Эліэзэра Бен-Ягуды. У Лужках яўрэйскай дэлегацыі аказалі вельмі цёплы прыём.

Госці з Вялікай Брытаніі і Злучаных Штатаў выказалі гатоўнасць і надалей фундаваць устаноўку ў нашай краіне такіх знакаў, каб ніводнае яўрэйскае пахаванне не было забытае.



# Не трэба паўтараць чужых памылак



Жыхары г. Белаазёрска Бярозаўскага раёна, бацька і сын, за ноч 26 чэрвеня злавілі 498 рыбін. За гэты "рэкорд" іх чакае крымінальная адказнасць. *Здымак з сайта інспекцыі*

**Рыбалка – гэта адна з найбольш масавых захапленняў мужчынскай часткі насельніцтва. І не толькі мужчынскай.**

■ **Валерый Катовіч,** *старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Аб лоўлі рыбы мы чуем вельмі часта, бо гэта прыемны і незабыўны адпачынак, любімы занятак мужчын, для якога яны заўсёды імкнуцца вылучыць час. Гэта могуць быць запланаваны адпачынак або проста прыдатныя свабодныя выхадныя – для аматараў парыбачыць розніцы няма.

Але разам з рыбаловамі, якія паважаюць закон, не пераводзяцца яшчэ і аматары і так званай "лёгкай рыбалкі" (сеткамі, нератамі, павукамі і інш.). Іх не палохаюць ніякія пакаранні. Надзея на "авось" не заўсёды апраўдвае сябе. Можна парыбачыць сто разоў, але на сто першы панесці пакаранне за ўсё адразу, як у большасці выпадкаў і бывае.

Апоўдні 23 чэрвеня на беразе возера Янкішкі Пастаўскага раёна стала вельмі неспакойна. Следча-аператыўная група Пастаўскага раёна прыбыла ў гэта месца па паведамленні работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, якія правялі затрыманне двух жыхароў Пастаўскага раёна.

Затрыманыя грамадзяне трыма стаўнымі сеткамі агульнай даўжынёй 290 метраў незаконна здабылі 98 асобін шасці розных відаў рыб агульнай вагой 35 кг. Спачатку яны зрабілі спробу схаваць здабычу, але беспаспяхова. Інспектару ў літаральным сэнсе слова прыйшлося распранацца, каб дастаць мяшкі з сеткамі і рыбай з вады.

Па дадзеным факце ўзбуджаная крымінальная справа па ч.4 арт. 281 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (незаконная здабыча рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры – 290 б.в.).

Падобная сітуацыя адбылася і ў Шаркоўшчынскім раёне.

На мабільны тэлефон намесніка начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі 28 чэрвеня паступіў ананімны званок. У гэты раз інфармацыя была аб незаконнай лоўлі рыбы на рацэ Палавіца непадалёк ад вёскі Балбекі Шаркоўшчынскага раёна.

Раніцай наступнага дня ў ходзе адпрацоўкі дадзенай мясцовасці быў затрыманы жыхар Шаркоўшчынскага раёна, які дзвюма сеткамі агульнай даўжынёй 140 метраў незаконна здабыў 26 асобін карася і ліня агульнай вагой 10 кг.

Затрыманы аказаўся старым знаёмым работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Раней ён неаднаразова затрымліваўся за падобныя злачынствы і нават адбываў пакаранне ў месцах пазбаўлення волі за браканьерства. І зноў усё паўтараецца, 29 чэрвеня ўзбуджаная крымінальная справа па ч.2 арт. 281 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь, прад'яўлены пазоў на прычыненне шкоды на суму звыш 24 млн.рублёў.

Пакуль інспектары сачылі за парушальнікам, які ў спешцы здымаў сеткі з рыбай, у поле зроку з'явілася другая лодка. У ёй знаходзіўся жыхар суседняй вёскі, які таксама ў спешцы праводзіў устаноўку сетак.

На першы погляд, парушэнне адно і тое ж, а вось пакаранне рознае. Першы зняў сеткі і трапіў пад крымінальную адказнасць, а другі папаўся пры іх устаноўцы і адкараскаўся адміністрацыйным пакараннем з канфіскацыяй незаконных прылад лоўлі і штрафам ад 20 да 50 базавых велічынь.

Добра правесці час на вадаёме без матэрыяльных страт на штрафы можна пры ўмове захавання ўсіх правілаў і нормаў паводзін на прыродзе. Так што лавіце момант – атрымлівайце асалоду ад сонцам, не забываючыся пры гэтым пра адказнасць!

**Аб усіх парушэннях можна паведаміць на тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Асцярожна! Штармавое папярэджанне!


Смерч перавярнуў прыватную краму ў Шаркоўшчыне. *Здымак Змітра Лупача*

**Усё часцей і часцей па зводках МНС і ад метэаслужбаў перадаюцца папярэджанні аб моцным ветры – штармавое папярэджанне.**

■ **Алег Салодкі**, *інспектар ГПіВО Глыбоцкага РАНС*

На гэтыя паведамленні мала хто звяртае ўвагу і не ўдзяляе ім асаблівага значэння. А дарэмна, ужо не раз на тэрыторыі Глыбоцкага раёна былі навальніцы, якія суправаджаліся моцнымі ветрамі, у выніку якіх падалі дрэвы, будынкі атрымлівалі пашкоджанні, а людзі - траўмы. А ўвечары 11 ліпеня па Шаркоўшчынскім і Глыбоцкім раёнах "прайшоў" сапраўдны тарнада – смерч, які нават руйнаваў цагляныя будынкі, пераварочваў гандлёвыя павільёны і перакульваў казловыя краны на чыгунцы.

У сувязі з чым ратавальнікі рэкамендуюць звяртаць увагу на штармавыя папярэджанні і выконваць наступныя **правілы**:

1) шчыльна зачыніце і ўмацуйце ўсе дзверы і вокны; на шкло наляпіце крыж-накрыж палоскі пластыру (каб не разляталіся асколкі);

2) падрыхтуйце запас вады і ежы, медыкаментаў, ліхтарык, свечкі, газавую лямпу, прыёмнік на батарэйках, дакументы і грошы;

3) адключыце газ і электрычнасць;

4) прыбярыце з балконаў (са двароў) прадметы, якія могуць быць вынесеныя ветрам;

5) з лёгкіх будынкаў перайдзіце ў больш трывалыя або прытулкі грамадзянскай абароны;

6) у вясковай хаце перабярыцеся ў найбольш прасторную і трывалую яе частку, а лепш за ўсё – у падвал;

7) калі ў вас ёсць машына, паспрабуйце ад'ехаць як мага далей ад эпіцэнтра ўрагану.

У час жа буры ні ў якім разе не ратуйце маёмасць – лепш за ўсё перачакаць непагадзь у загадзя падрыхтаванай хованцы ці, хоць бы, у склепе.

**Калі вы апынуліся на вуліцы падчас урагану:**

1) трымайцеся далей ад будынкаў і збудаванняў, высокіх слупоў, дрэў, рэкламных шчытоў, мачтаў, апор і электраправадоў;

2) нельга знаходзіцца на мастах, пуцеправодах, эстакадах, у месцах захоўвання лёгкаўзгаральных і атрутных рэчываў;

3) схавайцеся пад мастом, жалезабетонным навесам, у падвале, склепе; можна легчы ў яму або любое паглыбленне; вочы, рот і нос абараніце ад пяску і зямлі;

4) калі вы едзеце на машыне па раўніне, спыніцеся, але не пакідайце аўтамабіль; шчыльней зачыніце яго дзверы і вокны, адвярніцеся ад шкла;

5) калі вы ў гарадскім транспарце, неадкладна пакіньце яго і шукайце прытулак;

6) калі стыхія заспела вас на ўзвышаным або адкрытым месцы, бяжыце (поўз) у бок якой-небудзь хованкі, якая магла б пагасіць сілу ветру, пры гэтым сцеражыцеся падаючых галінак і дрэў;

7) калі вецер заціх, не выходзьце адразу з хованкі, бо праз некалькі хвілін шквал можа паўтарыцца;

8) захоўвайце спакой і не панікуйце, дапамагайце пацярпелым.

**Як паводзіць сябе пасля стыхійных бедстваў:**

1) выходзячы з хованкі, паглядзіце – ці няма навісаючых прадметаў і частак канструкцый, абарваных правадоў;

2) не запальвайце газ і агонь, не ўключайце электрычнасць да таго часу, пакуль спецыяльныя службы не праверацць стан камунікацый;

3) не карыстайцеся ліфтам;

4) не заходзьце ў пашкоджаныя будынкі, не падыходзьце да абарваных электраправадоў;

5) дарослае насельніцтва павінна аказваць дапамогу ратавальнікам.

## МНС інфармуе
**на 05.07.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 380;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.


Стыхія разбурыла жылы дом у Шаркоўшчыне. *Здымак Змітра Лупача*

# Як засцерагчы сябе ад паражэння токам пры палявых працах

**Хутка ў сельскагаспадарчых арганізацыях раёна пачнецца ўборачная кампанія.**

■ **А. Сіўко**, *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

На ворных землях праходзяць высакавольтныя лініі электраперадач напружаннем ад 10 да 330 кВ, якія маюць свае ахоўныя зоны. Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць у ахоўныя зоны электрычных сетак, не забіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ.

Праца ў ахоўных зонах паветраных ліній электраперадач уяўляе сабой сур'ёзную небяспеку для тых, хто працуе, і патрабуе ад іх няўхільнага выканання правілаў аховы электрычных сетак. Небяспека можа паўстаць пры працы машыны пад лініяй электраперадачы: набліжэнне корпуса машыны на недапушчальна блізкую адлегласць да провада, абрыў провада і яго падзенне на машыну ці наезд машыны на абарваны провад.




У сельгасарганізацыях з механізатарамі і кіроўцамі грузавога аўтатранспарту перад пачаткам работ павінны праводзіцца інструктажы і гутаркі па прафілактыцы электратраўматызма і правілах працы ў ахоўных зонах ліній электраперадачы.

На гэта звяртаем асаблівую ўвагу службовых асоб арганізацый, закліканых забяспечыць выкананне правілаў тэхнікі бяспекі. У перыяд масавага выхаду буйнагабарытнай тэхнікі на палі, для нарыхтоўкі кармоў і ўборкі ўраджаю, невыкананне правілаў працы ў ахоўных зонах ліній электраперадач можа прывесці да няшчасных выпадкаў.

**Нагадваем, што катэгарычна забараняецца:**

■ працаваць у пралётах ліній, якія маюць абарваныя правады, а таксама набліжацца да гэтых апораў у месцы абрыву правадоў на адлегласць менш за 20 м;

■ працаваць стагаскладальнікамі пад правадамі ВЛ, выконваць пагрузачна-разгрузачныя работы;

■ транспарціроўка стагоў сена, саломы і іншых падобных грузаў пад правадамі ВЛ;

■ працаваць на высокагабарытных машынах пад правадамі ліній на ўчастках, якія маюць рэзка няроўны рэльеф, а таксама наязджаць на бугры вышынёй больш за 0,5 м;

■ забараняецца знаходзіцца рабочаму персаналу на машыне па-за кабінай або ахоўнага казырка;

■ выконваць рамонтна-прафілактычныя працы на машыне;

■ працаваць пры набліжэнні або падчас навальніцы.

**Пры падзенні провада на машыну кіроўца павінен:**

■ неадкладна спыніць машыну; калі пры гэтым можна вызваліць машыну ад абарванага провада перамяшчэннем машыны, то неабходна гэта зрабіць як мага хутчэй і паведаміць аб тым, што здарылася ў электрычныя сеткі;

■ калі такой магчымасці няма, то назіраючы павінен паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні кіроўца, ні назіраючы не павінны прадпрымаць ніякіх самастойных дзеянняў;

■ набліжацца да такой машыны на адлегласць менш (бліжэй) за 20 м забараняецца;

■ пры працы машыны без назіраючага кіроўца павінен сігналам трывогі прыцягнуць увагу кіроўцы бліжэйшай машыны, які павінен паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі;

■ калі ў выніку падзення провада або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, то рабочы персанал павінен неадкладна яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага судотыку чалавека з машынай і зямлёй; лепш за ўсё саскочыць на зямлю на абедзве сагнутыя нагі, не трымаючыся за машыну; аддаляцца ад яе трэба скачкамі на адной або двух сагнутых нагах, на адлегласць не менш за 20 м;

■ аб тым, што здарылася неадкладна паведаміць у электрасеткі і да прыбыцця спецыяльнай брыгады электрасетак не рабіць ніякіх дзеянняў па пажаратушэнні машыны і набліжацца да яе бліжэй за 20 м.

**Будзьце ўважлівыя! Аб усіх выпадках аварый на паветраных лініях электраперадач неадкладна паведаміце пра гэта дыспетчару электрычных сетак.**

